*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 20(128) ◈ 19 траўня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



З 4 па 14 траўня ў Менску працаваў міжнародны семінар, прысвечаны тэме: «Лекцыянарыі і біблейскі пераклад». Важная падзея ў духоўным жыцці Беларусі была арганізавана і праходзіла пры чынным удзеле Абзархата біблейскага таварыства ў Лондане, Біблейскага таварыства Рэспублікі Беларусь і Беларускага экзархата маскоўскай патрыярхіі. У памяшканні экзархата і праходзілі рабочыя пасяджэнні ўдзельнікаў семінара. Перад слухачамі з Беларусі, Расіі, Украіны, Дагестана, Чувашыі выступілі з лекцыямі знакамітыя вучоныя-біблеісты. Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны на семінары прэзентаваў карэспандэнт «Нашага слова».

Больш падрабязны матэрыял пра міжнародны біблейскі семінар надрукуем у бліжэйшым нумары газеты.

Лявон ЛІПЕНЬ.

*СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ: «Для Беларусі рабіць стаўку на сілу, імкнуцца дэманстраваць мускулы — гэта азначала б не ўмацаванне бяспекі, а, наадварот, пагаршэнне адносін з суседзямі, рост ваенных расходаў, зніжэнне і без таго невысокага ўзроўню жыцця людзей... Выбіраючы паміж суверэнітэтам і таннай нафтай і аддаючы перавагу нафце, мы лёгка можам згубіць першае і не атрымаць другога».*

ПРЭЗІДЭНТ РАСІІ БАРЫС ЕЛЬЦЫН: «Расія не ўмешваецца ва ўнутраныя справы Беларусі. Кіраўніцтва РФ не выстаўляе ў якасці абавязковай умовы эканамічнага саюза — саюз ваенны».

*ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР БЕЛАРУСІ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ ІНДЫЮ. Былі абмеркаваны пытанні, якія выклікаюць двухбаковую цікавасць. Індыя ў бліжэйшы час накіруе ў Беларусь медыкаментаў на суму 500 тысяч рупій для дзяцей, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай катастрофы.*

ПА ДАРУЧЭННІ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА БЕЛАРУСІ В. КЕБІЧА ў самыя кароткія тэрміны будзе падрыхтавана праграма жорсткіх мер па абароне эканамічных інтарэсаў краіны. Даўно пара!

11траўня ў Доме літаратара адбылася арганізаваная ЗБС «Бацькаўшчына» прэс-канферэнцыя для журналістаў, прысвечаная I З'езду беларусаў свету, які пройдзе ў Менску з 8 па 10 ліпеня. Падрабязныя матэрыялы будуць у бліжэйшых нумарах «НС».

*Да 4 чэрвеня працягнута падпіска на беларускія выданні на другую палову 1993 года. Так што, хто яшчэ не падпісаўся на «Наша слова», спяшайцеся. Чым на кіёскі спадзявацца, лепш на газету падпісацца!*

## Далучэнне да ваеннага саюза з'яўляецца небяспечным і авантурным

Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ распаўсюдзіў заяву, у якой гаворыцца:

На нечарговай XI сесіі Вярхоўны Савет прагаласаваў за далучэнне нашай краіны да Пагаднення «Аб калектыўнай бяспецы», якое падпісана Расіяй, Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Таджыкістанам і Узбекістанам.

Як вядома, войскі шэрагу гэтых краін вядуць ваенныя дзеянні ў розных рэгіёнах былога СССР. Далучэнне да ваеннага саюза з ваюючымі краінамі альбо з краінамі, дзе існуе палітычная нестабільнасць, з'яўляецца небяспечным і авантурным.

Ігнараванне ўласнай заявы аб імкненні да нейтральнага статуса Беларусі робіць палітыку Вярхоўнага Савета непаслядоўнай і непрадказальнай, што, безумоўна, выкліча насцярожанасць да Беларусі з боку еўрапейскіх краін і нанясе шкоду стабільнасці на кантыненце.

Дарэмна спадзявацца, што ўступленне ў ваенны саюз будзе спрыяць далейшаму існаванню нашага гіганцкага ваенна-прамысловага комплексу, што Расія будзе несці за нас ваенныя выдаткі і забяспечваць ваенныя заказы для беларускіх прадпрыемстваў.

Расія не мае сродкаў працягваць гонку ўзбраенняў. Танкі і ракеты не заменяць хлеба і масла, таму як для Расіі, так і для Беларусі структурная перабудова эканомікі, і перш за ўсё канверсія ваенных прадпрыемстваў, з'яўляецца непазбежнай. Пры гэтым нешматлікія ваенныя заказы будуць размешчаны ў асноўным на расійскіх заводах. Маючы праблему беспрацоўя, Расія будзе ствараць і захоўваць працоўныя месцы не для беларусаў, а для ўласных грамадзян. Што датычыць нармалізацыі ўзаемных паставак і паляпшэння эканамічных сувязей, для гэтага непатрэбен ваенны саюз, дастаткова эфектыўна працуючых эканамічных пагадненняў.

Нельга лічыць сур'ёзнымі запэўніванні ў тым, што Беларусь зможа ўнесці ў Пагадненне агаворку аб забароне пасылкі нашых вайскоўцаў у «гарачыя кропкі». Усе агаворкі сумесна абмяркоўваюцца ўдзельнікамі Пагаднення, і зразумела, што ніводная дзяржава-ўдзельніца не зацікаўлена ў прадастаўленні Беларусі нейкіх асаблівых ільгот.

Яшчэ больш авантурным і недарэчным выглядае спадзяванне з дапамогай ваеннага саюза адрадзіць у той ці іншай форме былы СССР. Мы ўжо ніколі не вернемся ні да ўнітарнай, таталітарнай дзяржавы, ні да ўнітарнай мілітарызаванай эканомікі.

Грамада цалкам падтрымлівае пазіцыю Старшыні Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевіча і ягоную ініцыятыву па правядзенні рэферэндуму з фармулёўкай: «Ці падтрымліваеце вы дзяржаўны нейтралітэт Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адмаўленне ад ваенна-палітычных саюзаў з іншымі краінамі і іх аб'яднаннямі?»

Мы салідарны з групай народных дэпутатаў, якая разгарнула ў Вярхоўным Савеце збор подпісаў у мэтах правядзення рэферэндуму.

Заклікаем сяброў Грамады, усіх грамадзян Беларусі арганізаваць збор подпісаў у падтрымку правядзення ўсенароднага рэферэндуму па пытанні аб нейтральным статусе беларускай дзяржавы.

## За мяжой жыве амаль кожны трэці беларус

*(Гутарка са старшынёй Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Яўгенам Лецкам)*



**— Спадар Яўген, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» існуе ўжо некалькі гадоў. Наколькі стабільнымі за гэты час сталі Вашы сувязі з нашымі суайчыннікамі за мяжой і якім чынам яны падтрымліваюцца?**

— У нас цесныя кантакты з усім беларускім замежжам, асабліва з амерыканскай эміграцыяй. Чаму менавіта з ёй? Яна аказалася самай актыўнай. Праўда, добра праяўляюць сябе і канадскія беларусы, але іх значна меней. Самая стабільная сувязь з далёкім замежжам — праз друк. Мы перасылаем усім беларускім згуртаванням у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Англіі і іншых краінах свету беларускамоўныя выданні, а яны, у сваю чаргу, забяспечваюць нас перыёдыкай эміграцкага друку. Мы сістэматычна атрымліваем такія выданні, як «Беларус», «Беларускі голас», «Зважай», «Беларусьен рэв'ю», «Голас часу» і г.д. Калі нашы землякі прыязджаюць у Беларусь, яны абавязкова наведваюць штаб-кватэру «Бацькаўшчыны». Такія сустрэчы адбываюцца часта. Нядаўна ў нас гасціў доктар Сажыч са Злучаных Штатаў, прэзідэнт БНР, а якраз сёння плануецца сустрэча з Міколам Шустам з Канады.

**— А якія сувязі з нашымі суродзічамі з Польшчы? Там жа жыве шмат беларусаў.**

— З беларусамі, што жывуць у Польшчы, сувязі ёсць, але, на маю думку, яны павінны быць больш цеснымі. Напачатку, калі стварылася Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», я быў большым энтузіястам, калі справа датычылася Польшчы. Быў упэўнены, што тым беларусам, якія жывуць у Польшчы, трэба не даць апалячвацца, а паспрабаваць неяк вярнуць іх да Беларусі і да беларускасці. Таму часта наведваў Польшчу і рабіў пэўныя захады на гэты конт. На жаль, атрымаў расчараванне. Самі беларусы там раз'яднаныя. А гэтая раз'яднанасць пастаянна вядзе да высвятлення адносін паміж суполкамі, што, зразумела, не можа садзейнічаць справе ўмацавання беларускасці.

*Заканчэнне на с. 2*

***У літаратурным музеі Максіма Багдановіча ў Менску працуе выстава дзіцячых малюнкаў «Бог — мой сябар». Яе арганізавалі супрацоўнікі музея, Беларуская каталіцкая грамада і парафія касцёла Святой Тройцы на Залатой Горцы.***

◆

***У Тураве адкрыты помнік вядомаму грамадскаму дзеячу XII стагоддзя Кірылу Тураўскаму.***

◆

***З фармулёўкай «за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра» загадам № 0499 міністра абароны Беларусі Паўла Казлоўскага ў запас звольнены старшыня БЗВ Мікалай Статкевіч. Ці патрэбны каментарыі?***

## Засталіся толькі птушкі



Прайшло сем гадоў... І толькі зусім нядаўна мы даведаліся, што кожны пяты беларус пацярпеў ад Чарнобыля і чацвёртая частка нашай зямлі забруджана радыяцыяй.

А колькі яшчэ давядзецца даведацца...

**На здымку:** у гэтай вёсцы, што ў Хойніцкім раёне, людзі даўно не жывуць. Засталіся толькі птушкі.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА. БЕЛІНФАРМ.**

## Варта браць прыклад з нашых суседзяў

**У краіне ідзе адкрытая барацьба супраць беларушчыны: ганьбуюцца мова і культура, а нацыянальныя святы ворагі ўсяго беларускага называюць «буржуазными» і «националистическими». Паспрабуй пры іх толькі вымавіць беларускае слова. «Вы ярый националист»,— пачуеце ў адказ. Тут варта ўдумацца: трэба дайсці да бязмежнага нахабства, каб чалавека, які на сваёй Радзіме размаўляе на роднай мове, называлі нацыяналістам!**

**Мне цяжка адказаць, чаму лютую нянавісць выклікала наша мова і культура ў былых функцыянераў — «чести и совести нашей эпохи». Паводле іх класіфікацыі, усё проста: бітва пад Оршай 1514 г. — дзікунства, нейкая княжацкая ўсобіца, а святкаванне 25 Сакавіка — шабаш нацыяналістычных сіл. Навошта народу, маўляў, такія святы.**

**Нядаўна прачытаў у прэсе, што дырэктара аднаго з віленскіх заводаў прыцягнулі да судовай адказнасці за тое, што справаводства на заводзе вялося па-руску. Нам у гэтым сэнсе добра было б павучыцца ў суседзяў. Разумныя яны людзі, бо ўсведамляюць, што без культуры, без мовы няма нацыі.**

***А. КАРЗЮК,***
***вучань X класа.***

# *«Паважаць родную мову — паважаць саміх сябе»,* —

## *сцвярджае прэзідэнт фірмы, актыўны прыхільнік роднага слова Сяргей ЛІХАДЗІЕЎСКІ*

Пазваніў у Бабруйскую фірму «Віцына».

— Добры дзень, слухаем вас,— адказалі на чысцюткай беларускай мове, якую пакуль не падпускаюць не тое што ў камерцыйныя, але і ў дзяржаўныя структуры. Па праўдзе кажучы, прыемна было чуць роднае слова. Я тут жа зацікавіўся:

**— А з кім маю гонар размаўляць?**

— Прэзідэнт фірмы Сяргей Ліхадзіеўскі!

Не сцярпеў, каб хоць краем вока не паглядзець на гэткага беларуса, ды яшчэ камерсанта, бізнесмена. Так і адбылося знаёмства. Потым я даведаўся пра Ліхадзіеўскага больш падрабязна. Здзіўляла, як можна, жывучы ў Латвіі (у Бабруйску бывае наездамі, так сказаць, па справах сваёй фірмы, хаця і збіраецца перабірацца назусім), не перарваць «нітачку», захаваць мову, роднае слова.

— А што ў гэтым дзіўнага,— кажа Сяргей Станіслававіч,— чаму я, беларус, павінен цурацца роднай мовы? Яна заўжды са мной. На ёй размаўляе ўся сям'я. Работнікаў прывучаю. Усе назвы толькі па-беларуску. Гэта не якоесьці дзівацтва, самарэклама — унутраная патрэба, маё глыбокае перакананне. І назва фірмы ўзята з гістарычнага мінулага. «Віцына» — карабель палавецкіх купцоў, на якім тыя яшчэ ў XIII стагоддзі ажыццяўлялі падарожжы ў Рыгу, Скандынаўскія краіны з мэтай пашырэння гандлёвых сувязей. Што ж да нашай мовы, то яна—адна з самых старажытных. На ёй размаўлялі такія асветнікі, як Скарына, Будны, Цяпінскі. Была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім. Ёсць чым ганарыцца.

**— На жаль, не ўсе так думаюць, як Вы. Але чаму?**

— Вельмі ж спяшаліся ў «светлую будучыню», дзе ўсё аднолькавае, агульнае. А «правадыры» яшчэ і падганялі. А цяпер, апрача, можа, Шушкевіча і яшчэ двух-трох кіраўнікоў, ніхто не размаўляе па-беларуску. А гэта вельмі, надзвычай важна.

**— І якое тут выйсце?**

— Сур'ёзна, зыходзячы з сітуацыі, заняцца моўнай праблемай. Пачынаць з сябе, са сваёй сям'і, калег па працы. Школа павінна рашуча пераарыентавацца, дашкольныя ўстановы тым болей. Павялічыць колькасць беларускамоўных выданняў. Нам не хапае годнасці. Калі, урэшце, станем паважаць самі сябе як нацыю, самабытную народнасць, у нас і гаспадарчыя справы пойдуць значна лепш. Я тут Амерыку не адкрываю, гэта сусветны вопыт.

**— А як асабіста Вы засвойвалі мову? У якіх умовах?**

— У самых звычайных. Ля таты, мамы, сельскіх жыхароў, што з вёскі Халопенічы Глускага раёна. Вучыўся ў мараходцы, але і там родную мову не забываў. Наадварот, дзе, як не на чужыне, адчуеш яе па-сапраўднаму? Мы, беларусы, якіх сярод маракоў было нямала, цягнуліся да роднай мовы, цікавіліся творамі беларускай літаратуры, сучаснай публіцыстыкі.

**— А ўсё ж, якая, лічыце, перспектыва ў беларускай мовы?**

— Справа ідзе пра выжыванне народа. Мова, на якой не гавораць, мёртвая, а з ёй і народ. І многія людзі гэта адчуваюць. Вядома, адным махам праблему не вырашыць. Аднак крокі ў гэтым напрамку павінны быць рашучыя.

**— Сяргей Станіслававіч, калі б Вы былі не прэзідэнтам фірмы, а вышэй — кіраўніком рэспублікі. З чаго б пачалі?**

— З умацавання нацыянальнай свядомасці беларусаў. Без гэтага не ўзняцца з каленяў і не пайсці наперад. Двухмоўе — дыверсія. Жывеш з беларусамі—вучыся паіхняму і размаўляць, паважай іх годнасць.

**— Ну і звязанае з папярэднім пытанне. Ці выношваеце план уключыцца на наступных выбарах у барацьбу, калі не за самы высокі пост на Беларусі, то хаця б на ўзроўні раёна?**

— А чаму і не? Саслоўе бізнесменаў, прадпрымальнікаў, якое зараз нараджаецца, мае права на тое, каб мець сваіх прадстаўнікоў не толькі ў мясцовых органах самакіравання, але і вышэйшых эшалонах улады. Якраз з такіх, напрыклад, выбраны прэзідэнт Калмыкіі. А гэта—іншы погляд, іншыя падыходы, у тым ліку і да развіцця роднай мовы. Думаю, што народу гэта было б толькі на карысць.

**Размову вёў**
**М. ДАВІДОВІЧ.**

# ЗА МЯЖОЙ ЖЫВЕ АМАЛЬ КОЖНЫ ТРЭЦІ БЕЛАРУС

*Заканчэнне.*
*Пачатак на с. 1.*

**— Гэта вельмі надзённае пытанне — беларуская еднасць. А наколькі яна трывалая паміж блізкім і далёкім нашым замежжам?**

— Калі гаварыць пра еднасць беларускага замежжа, далёкага і блізкага, то яна пакуль слабая. Беларусы Казахстана спрабавалі падключыць да святкавання юбілею Тадэвуша Касцюшкі далёкае замежжа, але іх спроба не ўдалася. Ведаю, што асобныя суполкі маюць сувязі з беларускім замежжам, але ж хацелася б шырокага і стабільнага паяднання.

**— Відаць, беларускія згуртаванні за мяжой цікавяцца не толькі праблемамі нацыянальнай культуры, але і палітыкай. Ці ўплываюць на іх падзеі, што апошнім часам адбываюцца ў Беларусі?**

— У Англіі палітычная актыўнасць беларускай эміграцыі была значнай адразу пасля Другой сусветнай вайны. Але цяпер моладзь адыходзіць ад спраў сваіх бацькоў і ў большасці асімілюецца. Што да амерыканскай і аўстралійскай эміграцыі, то палітычныя накірункі ў іх рабоце і зараз не затухаюць. Яны падобныя. Раней гэта была актыўная апазіцыя да бээсэсэраўскага ўрада. Эмігранты захоўвалі ідэалы БНР і незалежнасці Беларусі, прапагандавалі яе сімволіку. Заўсёды, дзе толькі можна было, гэтыя ідэалы сцвярджалі: на прыёмах прэзідэнтаў, у час дэманстрацый, шэсцяў, мітынгаў, якія арганізоўвалі перад пасольствамі СССР. Цяпер іх арыентацыя змянілася. Яны настроіліся на тое, што Беларусь адраджаецца, што яна будзе сапраўды незалежнай краінай і адсюль іх адносіны да беларускіх дзяржаўных дзеячаў. Я быў сведкам, як у Кліўлендзе віталі міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанку. Цяпер, магчыма, пасля апошніх падзей на сесіі Вярхоўнага Савета, яго б так не віталі і не шанавалі.

Што да беларусаў Лацінскай Амерыкі, то там сітуацыя іншая, чым у ЗША, Канадзе, Аўстраліі. Нацыянальных згуртаванняў няма. А ў той жа час там жыве пераважная большасць беларусаў. Яны бяруць удзел у мерапрыемствах пад расійскімі, польскімі і ўкраінскімі сцягамі. У нас з імі пакуль што вельмі слабыя кантакты. Думаю, што першачарговая задача з'езда беларусаў свету, які мае адбыцца 8—10 ліпеня г.г. у Менску, вярнуць гэтых беларусаў Беларусі. Мы ўжо даслалі ім запрашэнні на з'езд і будзем спадзявацца, што гэта нейкім чынам паверне іх да беларускасці.

**— Спадар Яўген, калі мы ўжо загаварылі пра з'езд, то скажыце колькі слоў пра тое, як узнікла сама ідэя яго склікання. Вядома, што былі розныя думкі і меркаванні на гэты конт.**

— Патрэба ў правядзенні з'езда беларусаў усяго свету з'явілася даўно. Такія кангрэсы і з'езды ўжо адбываліся за мяжой. За з'езд выказалася ўжо каля года назад 20-я сустрэча беларусаў ЗША і Канады. Паколькі наша арганізацыя скіравана на работу з дыяспарай, то мы адгукнуліся на гэтае запатрабаванне. Правялі сход беларусаў блізкага замежжа, які таксама падтрымаў ідэю склікання з'езда ў Менску. Калі гаварыць пра меркаванні прадстаўнікоў розных арганізацый і палітычных партый, то толькі кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронта выступіла з заявай аб сваім няўдзеле ў рабоце з'езда. Праўда, яшчэ БСДГ выказала думку, што на сённяшнім этапе было б больш пажадана правесці палітычную канферэнцыю. Я лічу, што рабіць такую заяву з боку БНФ было трошкі неабачліва. Палітычная сітуацыя сапраўды складаная. Трэба гэта ўлічваць, таму што такое мерапрыемства не можа праводзіцца без уліку падзей у рэспубліцы. У гэтым плане я заяву БНФ цалкам падтрымліваю, але ёсць і іншыя меркаванні. Урэшце кожная арганізацыя сама вырашае, браць удзел ці не ў тым ці іншым мерапрыемстве. Ну, а з'езд перш за ўсё — справа замежжа.

**— Ці ёсць ужо звесткі, колькі нашых суайчыннікаў возьмуць удзел у рабоце з'езда і, наогул, як вядзецца падрыхтоўка да яго?**

— Плануецца запрасіць з-за мяжы каля 500 чалавек. Зразумела, што будуць вялікія выдаткі. «Бацькаўшчына», па сутнасці, адна вядзе ўсю падрыхтоўку да з'езда. Створана арганізацыйная група. Яе ўзначальвае Ганна Сурмач. Яна працуе вельмі аддана і шчыра. Цяпер дасылаем запрашэнні, а таксама працуем над калектыўным дакладам пра пройдзены шлях Беларусі і яе сённяшні стан.

**— Якіх вынікаў ад работы з'езда Вы чакаеце?**

— Мэта з'езда высакародная: аб'яднаць беларусаў усяго свету. Але гэта магчыма толькі пры ўмове, што ўсё будзе добра тут, у Беларусі.

З'яднацца можна толькі вакол ідэі суверэнітэту, калі будзе цвёрдая перакананасць у тым, што незалежная Беларусь ёсць і што яна будзе падтрымліваць дыяспару, а дыяспара дапамагаць ёй. Я спадзяюся, што з'езд выкажацца вельмі канкрэтна па некаторых пытаннях, у тым ліку па дзяржаўнасці мовы, і, улічваючы, што за мяжой жыве прыблізна кожны трэці беларус, лічу, што да іх думкі павінны прыслухацца наш урад і парламент. Сусветная беларуская грамадскасць павінна выказаць свае адносіны да тых падзей, якія адбываюцца сёння на Беларусі, а таксама погляд на тое, якой яна бачыць Беларусь у будучым.

**Распытвала**
**Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Але!*

# Не вер вачам сваім

**Гэта добра, што інфармацыйныя службы рэспублікі не абыходзяць сваёй увагай праблемы арфаграфіі беларускай мовы. Летась, напрыклад, агенцтва БелаПАН рэагавала на стварэнне арганізацыйнага камітэта навуковай канферэнцыі «Праблемы беларускага правапісу», а Белінфарм зафіксаваў пераход на «тарашкевіцу» часопіса «Мастацтва». На жаль, у гэтых кароткіх паведамленнях чытачам не заўсёды прапаноўвалася толькі інфармацыя, але і — прапаганда. Такою прапагандаю ў нататцы БелаПАН было неверагоднае сцверджэнне, што мэтай канферэнцыі мела быць «скасаванне ўстаноўленых урадавымі нарматыўнымі актамі 1933 і 1957 гадоў граматычных правіл беларускай літаратурнай мовы». Канферэнцыя прайшла, яна прапанавала карыстацца менавіта правіламі 50-х гадоў (да таго часу, пакуль не будзе прыняты ўдакладнены правапіс), але тое, што канферэнцыя і не збіралася іх «скасоўваць», было зразумела з самага пачатку.**

**Апошнім часам агенцтва БелаПАН апублікавала ў некаторых газетах рэкамендацыі III з'езда Таварыства беларускай мовы па ўдасканаленні правапісу, дадаўшы ад сябе, што гэтай пастановай з'езда «вернуты да жыцця ў беларускай літаратурнай мове большасць палажэнняў граматыкі Браніслава Тарашкевіча, якая бытавала на Беларусі да 1933 года». Але ж рашэнні грамадскай арганізацыі, якой з'яўляецца Таварыства беларускай мовы, не маюць заканадаўчай сілы, і, адпаведна, усімі, хто карыстаецца беларускай мовай, могуць хіба што «прымацца да ведама». З другога боку, з'езд не выказаўся за напісанні тыпу *парыскі, чувускі*, не падтрымаў правапісу паводле «тарашкевіцы» запазычанняў (накшталт *калёна, плян, клюб, пэрыяд, праспэкт, сынонім, фізыка*), не прыняў напісанняў тыпу *ў вадзін вагон, бяз волі, ня прыйдзеш* і інш. З'езд не зрабіў гэтага ў тым ліку таму, што камісія па ўдасканаленні правапісу ТБМ, якая рыхтавала праект рэкамендацый, такія правілы і не прапаноўвала.**

**Убачыўшы на клетцы слана надпіс «буйвал», трэба не верыць сваім вачам. Гэта ж трэба рабіць, чытаючы каментары агенцтва БелаПАН да рэкамендацый III з'езда ТБМ па ўдасканаленні правапісу.**

Сяргей ЗАПРУДСКІ,
сакратар камісіі па ўдасканаленні правапісу ТБМ. («Добры вечар», 29.04.93).

*Вучнёўскія канферэнцыі*

# За імі — будучыня

Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр (БГАКЦ) і Менскае гарадское ўпраўленне народнай адукацыі правялі навуковую вучнёўскую канферэнцыю. У яе рабоце ўдзельнічалі вучні Х—ХІ класаў сталічных школ, навучэнцы беларускіх гуманітарных ліцэяў Менска, Койданава, Гомеля, Гародні. Працавалі дзве секцыі — моўная і гістарычная. У склад адпаведных рабочых камісій, якія падводзілі вынікі вучнёўскіх даследаванняў, уваходзілі вядомыя гісторыкі, мовазнаўцы, пісьменнікі, выкладчыкі грамадазнаўчых філалагічных дысцыплін ВНУ, супрацоўнікі Міністэрства адукацыі.

Адна з галоўных мэт канферэнцыі — выяўленне маладых талентаў, здольных заўтра плённа працаваць у галіне гуманітарных навук. Пісьменнік і гісторык Мікола Ермаловіч, звяртаючыся да ўдзельнікаў канферэнцыі, сказаў: «На вас зараз ляжыць вялікае бярэмя Адраджэння. Вы панесяце сцяг беларускай справы ў ХХІ стагоддзе, за вамі — будучыня!»

Сярод значнай колькасці папярэдне дасланых работ мовазнаўчая камісія канферэнцыі вылучыла дванаццаць лепшых, гістарычная — дзесяць. Адзначым, што па мовазнаўству маладыя даследчыкі ўздымалі праблемы ўзнікнення і паходжання роднай мовы, пытанні яе лексікаграфіі і слоўнікавай спадчыны, беларуска-расійскай міжмоўнай паранімії, беларускай анамастыкі, стылістыкі, культуры літаратурнай мовы і маўлення. Асаблівая ўвага была засяроджана на пашырэнні ва ўжыванні так званай трасянкі. Цікавасць выклікала таксама і тэма сучаснага беларускага правапісу.

Вучнёўскія гістарычныя распрацоўкі тэматычна ахаплівалі амаль усю мінуўшчыну Бацькаўшчыны. Найбольш грунтоўнай падрыхтоўкай навуковых гістарычных даследаванняў вызначыліся работы А. Семчанкі (гімназія № 1 Менска) і Б. Шосціка (койданаўкая філія Беларускага гуманітарнага ліцэя). Пасля іх выступленняў прамоўцаў закідвалі пытаннямі, адказы на якія часта перарасталі ў сапраўдную дыскусію. Але работам гэтых здольных хлопцаў не заўжды ставала паслядоўнасці і логікі. Першае месца па гістарычных даследаваннях заваявала менская ліцэістка А. Фарберава, якой дапамаглі абысці іншых прэтэндэнтаў надзвычайныя старраннасць і ўнутраная сабранасць. Пераможцам вучнёўскіх распрацовак па праблемах мовазнаўства стаў навучэнец Беларускага гуманітарнага ліцэя А. Кузьміч, які прадэманстраваў не толькі глыбокія веды, але і рашучасць, настойлівасць у доказах правільнасці ўласнага падыходу да канкрэтных пытанняў свайго даследавання.

Удзельнікаў вучнёўскай канферэнцыі, чые работы таксама заслугоўвалі высокай ацэнкі, чакалі і іншыя прызы: за красамоўства, за навізну тэмы, за самастойнасць поглядаў, за найбольш поўнае выкарыстанне разнастайных крыніц.

І гаспадары і фундатары канферэнцыі паставіліся з належнай увагай да навуковай творчасці таленавітай беларускай моладзі, яны як след заахвоцілі шчырае памкненне маладых даследчыкаў да ведаў. Будзем спадзявацца, што канферэнцыя стане ў Менску традыцыйнай.

**С. ПАТАРАНСКІ.**

# БІБЛІЯТЭКА — АСЯРОДАК НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ

**ТАКОЕ ПЫТАННЕ РАЗГЛЕДЖАНА НА ЧАРГОВЫМ ПЛЕНУМЕ ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ (БФК), ЯКІ АДБЫЎСЯ 29 КРАСАВІКА Ў МЕНСКІМ ДОМЕ МАСТАЦТВАЎ. У ЗАЛЕ — СЯБРЫ ПРАЎЛЕННЯ БФК, КІРАЎНІКІ ТВОРЧЫХ САЮЗАЎ РЭСПУБЛІКІ, ВЯДОМЫЯ НАВУКОЎЦЫ, БІБЛІЯТЭЧНЫЯ РАБОТНІКІ, СУПРАЦОЎНІКІ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ, ЖУРНАЛІСТЫ.**

Адкрываючы пасяджэнне, першы намеснік старшыні праўлення БФК спадарыня А. Багданава ва ўступным слове падкрэсліла: «Жывуць бібліятэкі — жыве і культура! Ды не толькі культура, а і вытворчасць, навука...» Дэталёва прааналізаваўшы цяперашні, шмат дзе проста жахлівы, блізкі нават да катастрафічнага стан нашых бібліятэк, прамоўца акцэнтавала ўвагу на тым, што сёння бібліятэчныя ўстановы рэспублікі яшчэ не ў поўную сілу ўдзельнічаюць у пабудове нашай нацыянальнай дзяржавы. Асноўная прычына — праблемы і хібы бягучага камплектавання бібліятэчных фондаў, у выніку чаго новая літаратура на роднай мове, як і ўчора, складае толькі невялікі працэнт свежых паступленняў. А. Багданава, у прыватнасці, паведаміла пра інфармацыю, атрыманую БФК з Мядзеля, згодна з якой бібліятэкі раёна, не зважаючы на прыняцце Закона аб мовах, для камплектавання ўласных фондаў па-ранейшаму цэнтралізавана атрымліваюць пераважна рускамоўную літаратуру. На жаль, гэты прыклад — з'ява на Беларусі тыповая.

Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь (былая «Ленінка») Г. Алейнік падкрэсліла, што перад усімі нашымі бібліятэкамі стаіць надзённая задача — стаць на месцах сапраўднымі асяродкамі беларускай нацыянальнай культуры. Толькі гэта,— лічыць прамоўца,— зможа пашырыць кола і кантынгент чытачоў бібліятэк, якое, да слова, на працягу 1985—1990 гадоў у рэспубліцы скарацілася на 500 тысяч чалавек. Нічога тут дзіўнага,— сказала спадарыня Г. Алейнік: грамадзяне ўжо не жадаюць чытаць заідэалагізаваную, заснаваную на камуністычнай міфалогіі так званую грамадска-палітычную літаратуру, якая і сёння складае больш за палавіну назапашаных бібліятэкамі кніг. А кніжныя выданні на роднай мове (у тым ліку па абрыдлай усім грамадска-палітычнай тэматыцы, выпушчаныя ў перыяд таталітарызму) і зараз займаюць у бібліятэках вельмі сціплае месца: на іх прыпадае менш за пятую частку ўсіх бібліятэчных фондаў... Надзённай праблемай усіх бібліятэк застаецца неабходнасць вывучэння беларускай мовы бібліятэкарамі. Г. Алейнік адзначыла, што дзеля гэтага цяпер шмат робіцца, але ў нас «дагэтуль па-ранейшаму не прынята размаўляць у грамадскіх месцах па-беларуску. Няхай першым такім месцам стане кожная бібліятэка!».

Сябра праўлення БФК прафесар А. Мальдзіс парадаваў прысутных паведамленнем, што ўжо прынцыпова вырашана вярнуць да нас, на Бацькаўшчыну, знакамітую бібліятэку графа Храптовіча. Мы,— адзначыў прамоўца,— падалі суседзям добры прыклад падыходаў да праблем вяртання гісторыка-культурных каштоўнасцей, што па розных прычынах знаходзяцца за межамі дзяржавы, якім па праву павінны належаць. Так Беларусь вярнула Украіне частку бібліятэкі С. Пятлюры. Далей прамоўца звярнуў увагу на тое, што Нацыянальная бібліятэка рэспублікі знаходзіцца ў жахлівым стане, што ўзвядзенне новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі — справа гонару беларусаў. Спадар А. Мальдзіс лічыць таксама, што сярод набалелых першачарговых задач беларускіх бібліятэк важнейшай застаецца інфармацыйнае забеспячэнне бібліятэчных устаноў. Тут патрабуюцца значныя грошы для набыцця сучасных тэхнічных інфармацыйных сродкаў.

Віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, акадэмік Радзім Гарэцкі пачаў выступленне так: «Бібліятэка — гэта якраз тое, што нясе людзям нацыянальную культуру... Я пабываў у замежных бібліятэках і міжвольна параўнаў іх з нашымі. Прыйшоў ад вынікаў у жах». Ён з абурэннем канстатаваў, што Нацыянальная бібліятэка рэспублікі ўжо два гады амаль не атрымлівае новых замежных навуковых выданняў, што ўрад адабраў ад Акадэміі тыя нязначныя валютныя сродкі, якія зарабілі супрацоўнікі інстытутаў АН. Акадэмік прапанаваў палепшыць прапаганду нашых бібліятэк, выказаўся супраць выбухова росту цэн на беларускія кніжныя выданні, якія назіраецца апошнім часам.

На пленуме бралі слова таксама работнікі бібліятэк і супрацоўнікі Міністэрства культуры. Былі падведзены вынікі І конкурсу «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры», пераможцы якога ўзнагароджаны прэміямі і дыпломамі.

**Мар'ян ВІЖ.**

*РУПЛІЎЦЫ*

# Бел-чырвона-белы лунае над лясгасам

Нядаўна мне давялося пабываць у службовай камандзіроўцы ў надзвычай прыгожым мястэчку нашай Беларусі, а дакладней, у горадзе Верхнядзвінску, пазнаёміцца там з цікавымі людзьмі.

Дарога прывяла да канторы лясгаса. З першага погляду мяне шчыра ўразіла яе новае вонкавае афармленне: над уваходам будынак упрыгожвала маляўнічая выява дзяржаўнага герба — нашай славутай «Пагоні», размешчаная на фоне бел-чырвона-белага сцяга. У дырэктарскім кабінеце госця сустрэў гаспадар — Павел Ягоравіч Івашчанка.

Павел Ягоравіч амаль чатыры гады працуе дырэктарам лясгаса. За гэты час ім шмат зроблена для ўмацавання гаспадаркі. Заваяваў аўтарытэт новы дырэктар сярод калектыву лясгаса сваёй дзелавітасцю, павагай да людскіх клопатаў. Больш за ўсё мяне ўразілі яго нацыянальная самасвядомасць, руплівасць на карысць нацыянальнага Адраджэння. Пасля выхаду Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, які надае роднай мове статус адзінай дзяржаўнай, у лясгасе адразу пачалі весці справаводства на беларускай мове.

Павел Ягоравіч актыўна ўдзельнічае ў рабоце раённай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны, якую, да слова, з поспехам узначальвае мясцовы краязнавец, настаўнік-гісторык Алесь Мікалаевіч Крук. Акрамя таго, спадар Івашчанка з'яўляецца шчодрым фундатарам, ён матэрыяльна дапамагае суполцы ТБМ. А яшчэ дырэктар лясгаса прадстаўляе памяшканне для сходаў усіх дэмакратычных аб'яднанняў раёна. У горадзе сіламі энтузіястаў створаны клуб, які праводзіць самыя розныя мерапрыемствы: ад спартыўных да грамадска-палітычных. Тут ужо трэці год працуюць і курсы беларускай мовы. Як бачым, станоўчыя арухі па адраджэнні роднай культуры і мовы на Верхнядзвіншчыне ёсць.



Засмучае, што працэс адраджэння ў раёне ідзе вельмі марудна. Зрэшты, нічога дзіўнага, бо пры ўладзе застаюцца старыя структуры, якім, даруйце, проста напляваць на адраджэнне роднага слова. Якраз на месцах павінны адыграць пазітыўную ролю дэмакратычныя сілы, якія аб'ядноўваюць прыхільнікаў, на жаль, нешматлікіх, ТБМ, БНФ, БСДГ, іншых дэмакратычных партый і рухаў.

**А. МЯСНІКОВІЧ,**
**інжынер.**

# Вучымся!

## ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце скорагаворку, запомніце. Прагаварыце хутка тры разы.

З горкі-горачкі, дзе грэчка,
Ручаёк прыбег да рэчкі.
В. Жуковіч.

2. Прачытайце прыказкі і прымаўкі, захоўваючы асаблівасці вымаўлення часціцы **не** і прыназоўніка **без**.

Голад **не** свой брат. Калі ёсць гарох і капуста — у хаце **не** пуста. Хто хлеба мае досыць, той яго **не** просіць. Хлеб **не** зяць: які спякуць, такі і з'ядуць. Як **не** стала хлеба, дык і нож **не** трэба. **Без** солі **не** смачна, **без** хлеба **не** сытна. Солі і хлеба — і больш нічога **не** трэба. Хлеб з вадою, але **не** з бядою. Умела гатаваць, ды **не** ўмела падаваць. Бяда, што **не** п'ецца вада. Хто спіць, той есці **не** просіць. Спадзяваўся дзед на мёд, ды **не** еўшы спаць лёг. І кваску **не** зробіш з пяску. Жменя круп — гэта **не** каша. Бабовая каша — **не** голад.

3. Прачытайце верш Г. Граўбіна ў перакладзе В. Віткі, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных ды іх спалучэнняў.

### Палявая кухня

На дарозе мчыцца суп
З бульбы, з морквы, з ячных круп.
Без утрускі, без усушкі,
Цераз лужы, цераз брод
З мясам, з перцам і з пятрушкай —
Разяўляйце, хлопцы, рот!
Нашы кухні палявыя,
Дзе яны не пабылі!
Усе дарогі франтавыя
За гады вайны прайшлі.

Хтосьці можа запытацца:
— Што за бочкі гэта мчацца,
Шызы дым клубіцца з труб?
Гэта з перцам, з соллю, з кропам
Напрасткі ляцяць галопам
Сытны, смачны і духмяны
І такі доўгачаканы
Баявы салдацкі суп!

## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце пары слоў, захоўваючы правілы вымаўлення спалучэнняў зычных. Якія зычныя чаргуюцца?

Зарадка — на зарадцы [цц]
находка — па находцы [цц]
сутычка — у сутычцы [цц]
вокладка — на вокладцы [цц]
палічка — на палічцы [цц]

2. Прачытайце выразна ўрывак з рамана ў вершах Н. Гілевіча «Родныя дзеці». Звярніце ўвагу на выдзеленыя словы і словазлучэнні. Якія з іх ужыты ў пераносным значэнні? Выпішыце словы, якія абазначаюць назвы страў.

Вось ты ў гасцях — і нават слоўца
Табе сказаць няма калі:
Вяндлінку з водарам ядлоўца
*Мяцеш* — зараз па два скрылі!

А побач — зірк! — як цуд, як казка —
З каляндрай, з перцам, з часнаком —
Ляжыць вясковая каўбаска,
Таксама ўвітая дымком!

К таму ж падсохла на гарышчы —
Дык толькі плеўка шапаціць!
Умэнт кальцо з паўметра *знішчыў* —
Адно раз'ятрыў апетыт!

Калі ж *дапаў* да вантрабянкі —
Цягаць стамілася рука!
Глядзіш — а ўжо кіндзюк крывянкі
На блюда выклалі з гаршка!

О, гэны зверху і сысподу
Наскрозь усмажаны каўтух!
За чатырох *змалоў — уходаў!*
(Хоць сам ты лічыш, што за двух.)

Паспеў адчуць, што ўжо не слабка
І ў паясніцы,— а на стол
Тым часам едзе ў місе бабка
І парай дыхае пад столь:

З бакоў запечаная ў меру,
У бульбе скваркачы тырчаць...—
І так жа ўслед *пайшла на змену* —
Хоць замычы — каб не маўчаць!

«Усё! — сказаў.— На гэтым
дзякуй!»
А на абрус — нясуць бліны
І к ім — мачанку-верашчаку
З наборам рэбрачак свіных!

Хвіліну выстагнаў ты моўчкі:
«Дзе месца ўзяць? Патоўпіць дзе?»
І неўпрыкмет на два-тры вочкі
Паслабіў пас на жываце...

Ужо не здыхацца! Падпёрла —
Няйначай крушня камянёў!..
А перад посам... ставяць цёрла
Гарачых, тлустых калдуноў!

Калдун!.. Духмяны, самавіты,
У масле ўсмяглы, а паўзверх —
Смятанкай свежаю паліты!..
Ну што? І зноў глядзіш, як звер?

І адчуваеш, адчуваеш:
Няхай хоць згэтуль у труну —
А не зганьбуеш, не стрываеш —
*Дасі прытул* і калдуну!

## УРОК СЕМНАЦЦАТЫ

Дасі!.. І добра зробіш, браце!
І не ўпікай дарма сябе!
Ты за ядой — як і на працы:
На малацьбе ці на касьбе!

Калі на свеце нехта дзесьці
Умее добра працаваць,—
То ўмее ён і смачна *з'есці*
І — адпаведна — згатаваць!

Таму — дастойна, без эфекту
Прымай падзяку-пахвалу —
І беларускаму таленту,
І беларускаму сталу!

І цмокні ў ручку гаспадыні,
Каб сонцам пырснула яна,
І *ўскінь* яшчэ — а то астыне! —
*Ускінь на сэрца...* калдуна!..

3. Прачытайце верш П. Панчанкі «Хлебныя словы». Растлумачце правапіс выдзеленых слоў.

*Адценне слоў* — не глупства,
Ты ім не *пагарджай*.
Скарынка. Скіба. Луста.
Акраец. Каравай.

Акраец — шлях, дарога
І *зайцаў* хлеб *лясны*.
Скарынка — сум, *трывога*
І боль былой вайны.

Здараецца, *вядома*,
Што *выпіўшы ў гасцях*,
*Грызе* скарынку дома
Пахмурны *халасцяк*.

А скіба — *дзень вясновы*.
*Ралля*. Плугі. *Сяўба*.
Наш хлеб — *жыцця* аснова,
Працяг і *барацьба*.

А луста — слова сытнае,
Духмянае і *шчодрае*.
Яно ад *маці* — сітнае
Ці наздравата-*чорнае*.

А каравай — *вясельнае*
Святочнае яно.
На *ручніку* нясе яно
І радасць, і віно.

І справа тут не *ў ежы*,
А *ў смачным* змесце слоў,
І *ў жытнім ветры* свежым,
І ў звоне *каласоў*.

4. Прачытайце сказы, пабудуйце з імі дыялогі.

* Калі ў Вас абедзенны перапынак?
— З дзвюх да трох.
* Вы абедаеце дома?
* Я хаджу ў буфет (у сталоўку, у кафэ).
* Што ў вас на абед?
* Колькі каштуе порцыя капусты (морквы, буракоў)?

*Вайскоўцам пра родную мову*

* А поліўка ёсць у меню?
* Сёння рыбны дзень, у меню толькі рыба?
* Што возьмем з другіх страў?
* Можна заказаць фаршыраванага шчупака.
* У гэтай сталовай гатуюць смачныя мучныя стравы.
* Гэтую салату робяць з зялёнай цыбулі, зялёнага гароху, варанай бульбы, кропу і маянэзу.
* Я люблю стравы з гародніны.

5. Назавіце вашы любімыя стравы і скажыце, як іх прыгатаваць.

6. Складзіце паведамленне ці дыялог, выкарыстаўшы наступныя зычэнні:

* Калі ласка, госцейкі, сядайце. Просім.
* Дай, Божа, гаспадару і гаспадыні шчасця, долі і хлеба ўволю.
* Будзь вясёлы, як сват на вяселлі, здаровы, як вада, багаты, як зямля.
* Ешце, госцейкі, бярыце і мачайце, а на лепшае — выбачайце.
* Каб доўгія гады жылі, здаровыя былі і на нас не забываліся.
* Калі баль, то баль,— налівай расолу!
* Няхай будзе так, як добрыя людзі кажуць!
* Каб жылося, былося, елася і яшчэ больш хацелася.
* На доўгі век, на добрае здароўе!
* Я зычу Вам таго, чаго сабе жадаю.

7. Растлумачце, у якіх выпадках выкарыстоўваюцца зычэнні: «Смачна есці», «Хлеб-соль», «Дзякую», «Вялікі(-ая) расці».

8. Пастаўце назоўнікі ў родным склоне адзіночнага ліку паводле ўзору: *чарот — чароту, слуп — слупа.*

Горад, шлюб, Марс, Менск, лес, фронт, узгорак.

9. Прачытайце тэкст паводле І. Мележа, дапішыце канчаткі. Складзіце паводле пачатку апавяданне, дайце загаловак.

Некаторы час усе, хто быў ля вогнішч., гаварылі пра камандзір. дывізіі.. пра яго клапатлівасць аб салдатах, пра строгасць і адваг. ў ба.. Гаварылі з любоў. і гонар.. Потым гаворка стала чапляць іншыя тэмы, дзяліцца на групкі. У кожнай групц. свая цікавасць і свой клопат. Хто журыўся, хто жартаваў, хто славіў баявое геройства сваё і таварышаў перад жанчынамі. Нехта зацягнуў ціха сумную песн..

Так ніхто і не заўважыў, як...

## Тлумачэнне новай тэмы:

## Правапіс склонавых канчаткаў рознаскланяльных назоўнікаў і назоўнікаў роднага склону множнага ліку

I. У групу рознаскланяльных уваходзяць назоўнікі, якія абазначаюць назвы маладых істот *(дзіця, гусяня, цяля)*, і назоўнікі *імя, племя, стрэмя.*

Назвы маладых істот у родным, давальным і месным склонах маюць устаўку *-яц-* і канчатак *-і:* каго? каму? (на, пры) кім? *дзіцяці, гусяняці, цяляці.*

У творным склоне яны ўжываюцца без устаўкі і маюць канчатак *-ём:* кім? *дзіцём (дзіцем), гусянём, цялём.*

Ва ўсіх склонах множнага ліку гэтыя назоўнікі маюць суфікс *-ят-;* у родным і вінавальным ужываюцца з нулявым канчаткам: каго? *гусянят, цялят* (назоўнік *дзіця* ў множным ліку суфікса *-ят-* не мае, у родным склоне множнага ліку ўжываецца з канчаткам *-ей*, у творным — з канчаткам *-мі дзяцей, дзяцьмі* або *дзецьмі).*

Назоўнікі ніякага роду *імя, племя, стрэмя* пры скланенні набываюць устаўку *-ен:*

Р. *імя (імені), племя (племені), стрэмя (стрэмені)*
Д. *імю (імені), племю (племені) стрэмю (стрэмені)*
Т. *імем (іменем), племем (племенем), стрэмем (стрэменем)*
М. *імі (імені), племі (племені), стрэмі (стрэмені)*

Канчаткі гэтых назоўнікаў у множным ліку залежаць ад характару іх асновы: *імі* і *імені, імяў* і *імен (імёнаў), імям* і *імёнам* і г.д.

Назоўнік *племя* ў множным ліку ва ўсіх склонах мае суфікс *-ён-: плямёны, плямён (плямёнаў)* і г.д.

II. Да рознаскланяльных можна аднесці і назоўнікі мужчынскага роду з канчаткам *-а(-я)* тыпу *бацька, мужчына,察ося*, а таксама агульнага роду тыпу *плакса*, калі яны абазначаюць асоб мужчынскага роду. Гэтыя словы ў родным склоне маюць канчаткі *-ы, -і:* каго? *бацькі, мужчыны, косі, плаксы.* У творным склоне іх канчатак залежыць ад асновы і націску: кім? *бацькам, мужчынам*, косем, *плаксам* (але *Кузьмой, старшынёй, суддзёй).*

Ад асновы і націску залежаць таксама канчаткі давальнага і меснага склонаў:

Д. *бацьку, мужчыну, косю, плаксу*
М. *бацьку, мужчыне, косю, плаксе*

**Заўвага.** Назоўнікі названага тыпу з цвёрдай асновай у месным склоне маюць канчатак *-е* (аб *плаксе).*

**Замацаванне.**

Пастаўце ў адпаведнай граматычнай форме назоўнікі, змешчаныя ў дужках:

дам есці (кураня, кураняты; жарабя, жарабяты; парася, парасяты; качаня, качаняты);
не бачыў (лісяня, лісяняты; медзведзяня, медзведзяняты; ягня, ягняты);
сябрую з (Пеця, Саша, Вася, дзядзька, дзядуля);
сумую па (Міша, Толя, дзядзька, дзядуля, Мікола).

### КАНЧАТКІ НАЗОЎНІКАЎ У РОДНЫМ СКЛОНЕ МНОЖНАГА ЛІКУ

У родным склоне множнага ліку большасць назоўнікаў жаночага роду на *-а, -я* мае нулявы канчатак:

(што?) *хаты* — (чаго?) *хат*
(што?) *брыгады* — (чаго?) *брыгад*
*(хто?) жанчына* — (каго?) *жанчын*

Назоўнікі, аснова якіх заканчваецца збегам зычных, ужываюцца з канчаткамі *-аў, -яў:*

(што?) *плошчы* — (чаго?) *плошчаў*
(што?) *гульні* — (чаго?) *гульняў*

Калі ж другі зычны ў аснове *к*, то ў родным склоне назоўнік мае нулявы канчатак:

(што?) *шапкі* — (чаго?) *шапак*
(хто?) *дзяўчынкі* — (каго?) *дзяўчынак*

Назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам і ніякага роду маюць наступныя канчаткі: пад націскам — *-оў, -ёў*, не пад націскам *-аў, -яў;* асобныя назоўнікі маюць канчаткі *-эй, -ей*, напрыклад:

(што?) *лясы* — (чаго?) *лясоў*
(што?) *палі* — (чаго?) *палёў*
(хто?) *пілоты* — (каго?) *пілотаў*
(хто?) *героі* — (каго?) *герояў*
(што?) *вочы* — (чаго?) *вачэй*
(што?) *плечы* — (чаго?) *плячэй*

### ЗАМАЦАВАННЕ

**Практыкаванні**

1. Прачытайце і вызначце сэнсавую розніцу наступных пар словазлучэнняў. Складзіце сказы з выдзеленымі словазлучэннямі.

Сабраў арэхаў — сабраў арэхі, купіў цукерак — *купіў цукеркі, прынёс паперы* — прынёс паперу, сабраў трэсак — *сабраў трэскі*, пасадзіла малін — пасадзіла маліны, з'ела брусніц — *з'ела брусніцы.*

2. Пастаўце назоўнікі ў родным склоне множнага ліку і складзіце з імі невялікае апавяданне: узгорак, дрэва, куст, бяроза, елка, асіна, вавёрка, мышка, грыб, загадка.

Брэсцкі ліцэй — адзін з самых лепшых у краіне. У ім ліцэісты глыбока вывучаюць школьныя прадметы, знаёмяцца з асновамі менеджмента, псіхалогіяй сямейнага жыцця, вывучаюць інфарматыку і праграмаванне.

**На здымку:** заняткі ў аўдыторыі беларускай мовы і літаратуры вядзе выкладчык з 30-гадовым стажам Яўгенія Паўлаўна Гаронькіна.

Фота Эдуарда КАБЯКА. БЕЛІНФАРМ.

# У рэдакцыйны фонд «Нашага слова» ахвяравалі:

спадар Спігановіч (Англія) — 15 англійскіх фунтаў;
спадар Кажаневіч (Англія) — 20 англійскіх фунтаў;
спадар І. Фурсевіч (г. Докшыцы) — 1000 рублёў;
спадар В. Жуковіч (г. Менск) — 500 рублёў.

# На хвалях БТ

**19 ТРАЎНЯ**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**21.00. Панарама.**
**22.30. НІКа.**
**22.45. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**20 ТРАЎНЯ**

**10.45. Беларускія музычныя весткі.**
**11.25. ТА «Рэха». Рэйтынг.**
**11.55. Эпіцэнтр. Новая Канстытуцыя: якой яна будзе.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.50. Пазіцыя ўрада.**
**21.00. Панарама.**
**23.45. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**21 ТРАЎНЯ**

**10.10. Пазіцыя ўрада.**
**16.35. Голас. Літаратурна-мастацкі канал для школьнікаў.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**21.00. Панарама.**
**23.15. НІКа.**
**23.30. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**22 ТРАЎНЯ**

**14.55. Вобраз. Літаратурны часопіс.**
**16.30. «Я спрачаўся... з усімі». Сымон Будны.**
**17.55. Палітычны калейдаскоп.**
**21.00. Панарама.**
**23.20. НІКа.**

**23 ТРАЎНЯ**

**11.30. «Аб'ектыў-тэатр» у Беластоку.**
**14.30. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**17.00. Студыя «Тэлесябрына».**
**17.35. Сустрэча для вас. Старшыня праўлення Прыёрбанка С. А. Касцючэнка.**
**20.00. Панарама.**

# На помнік беларускаму вучонаму-гісторыку Міхасю ТКАЧОВУ

**Выканкам Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады шчыра дзякуе грамадзянам, прадпрыемствам і арганізацыям, якія ўнеслі сродкі на будаўніцтва помніка вядомаму беларускаму гісторыку, вучонаму і грамадскаму дзеячу Міхасю Ткачову:**

**Каралёва Д. С. (г. Мсціслаў) — 10 000 рублёў**
**Прыхільнік БСДГ (пажадаў застацца невядомым) — 20 000 рублёў**
**Міраслаў Целушэцкі (г. Беласток) — 46 000 рублёў**
**Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі — 100 000 рублёў**
**Рэчыцкі доследна-прамысловы гідролізны завод — 150 000 рублёў**
**Праўленне Белкаапсаюза — 100 000 рублёў**
**Цітовы (в. Шыркі Мсціслаўскага раёна) — 5 000 рублёў**
**Казлоўскія (г. Мсціслаў) — 2 000 рублёў**

**Для тых, хто жадае дапамагчы ў пабудове помніка, нагадваем, што сродкі трэба пералічваць на адрас: 220600, г. Менск, вул. А. Кашавога, 9, Заводскае аддзяленне Белпрамбудбанка, рахунак 700810, код. 338, Цэнтральная Рада БСДГ. На помнік М. Ткачову.**

**Даведкі па тэл. 46-46-91.**

**А. ТРУСАЎ,**
**старшыня ЦР БСДГ.**

КЛУБ «СПАДЧЫНА» І ДОМ ЛІТАРАТАРА

запрашаюць на вечар памяці Максіма Багдановіча, які адбудзецца 28 траўня а 18 гадзіне ў Вялікай зале Дома літаратара. Выступяць ансамблі «Сябры», «Буслік» і клуба «Спадчына».

# Народная лякарня

## *Д. ДЖАРВІС: Інстынкты дзяцей*

Малыя дзеці валодаюць інстынктам самаабароны, які падказвае ім, якая ежа больш неабходная для арганізма, а менавіта, багатая на вугляводы, бедная на бялкі і кіслая на смак. Доктар Джарвіс назіраў за вясковымі дзецьмі некалькі гадоў. Ён заўважыў, што яны жавалі сцяблінкі кукурузы і сена, елі сырымі бульбу, моркву, гарох, зялёную фасолю, рэвень, ягады, яблыкі, шчаўе, дзікі вінаград, галоўкі цімафееўкі. На фермах яны елі і пілі прызначаныя для падкормкі буйной рагатай жывёлы марскія водарасці, соль, яблычны воцат. Калі б дарослыя кіраваліся ў жыцці інстынктам дзяцей, яны больш ужывалі б фруктаў, ягад, прыдатных для яды лісцяў дрэў і карэнняў раслін. Джарвіс сустракаўся з такімі людзьмі, што рабілі менавіта так: елі кіслае або гаркаватае на смак лісце бука, вяза, клёна, вярбы, топаля, бярозы, яблыні, сакавітае лісце маліны, у ежу ішло таксама лісце дзікарослых лясных раслін і тых, што сустракаюцца ў садзе і на сенажаці. Такім чынам, яны задавальнялі патрэбу ў свежай духмянай ежы, багатай на вітаміны, пажыўныя і лекавыя рэчывы, якіх не хапае ў зімовым рацыёне. Елі яе вясной і на пачатку лета ў гатаваным і сырым выглядзе.

Расліны, прыдатныя для ежы:

**Агурочнік (бурачнік)** — аднагадовая расліна з прыгожымі блакітнымі кветкамі і шурпатым сцяблом. Гатуецца і падаецца накшталт шпіната.

**Аніс** — агародная расліна. Лісце дабаўляюць у салаты дзеля паху. Ужываецца ў народнай медыцыне (адвар травы п'юць пры грудных хваробах і для паляпшэння дзейнасці страўніка і кішэчніка, у якасці ветрагоннага, мачагоннага, патагоннага, гарачкапаніжальнага сродку. Рыхтуюць адвар з 15—20 г травы на літр вады. П'юць тры разы на дзень па паўшклянкі — рэд.).

**Базілік** — кустарнікавая расліна, якая лісцем і кветкамі нагадвае канюшыну. З рэзкім пахам. Каштоўная прыправа для супоў, салатаў, памідораў, мясных страў. Час збору — перыяд цвіцення. Верхавінкі зрэзваюць разам з лісцем, звязваюць у пучкі і сушаць на зіму.

**Ватачнік** — ядомая расліна. У ежу ідзе лісце, парасткі і верхавінка.

**Гарчыца** — пустазелле. Для салаты надаецца маладое лісце. Ужываецца ў якасці прыправы.

**Герань духмяная** — дэкаратыўная расліна. Лісце мае пах ружы, выкарыстоўваецца для прыгатавання яблычнага жэле, пудзінгаў і крэмаў.

**Дзьмухавец (адуванчык)** — лекавая расліна. Збіраецца для ежы вясной і на пачатку лета. Маладое лісце надаецца для салаты. Смачны дзьмухавец і ў вараным выглядзе.

**Кервель** — расліна, падобная да пятрушкі, але больш прыемнага паху. Выкарыстоўваецца для салатаў і ў якасці гарніру для мясных страў.

**Кмен, кроп, сельдэрэй і фенхель (салодкі кроп), хрэн** — агародныя расліны, ужываюцца як прыправы і вітамінныя дадаткі да розных страў — салатаў, супоў, смажаніны. Ужываюцца ў народнай медыцыне (насенне кмену — добры паслабляльны сродак, паляпшае дзейнасць страўніка і кішэчніка, асабліва дапамагае пры ўздуцці — рэд.).

**Крывасмок лекавы.** У ежу ідзе маладое лісце з вечназялёных кальчакоў расліны, якое надае салатам пах агурка.

**Крэс вадзяны (жаруха)** — расце пры крыніцах і рачулках, цвіце з вясны да восені, надае прыемны пах і смак бутэрбродам і салатам.

**Латук і энвідзій** — агародныя расліны са спецыфічным пахам. Для прыгатавання салатаў прыгодны ў вараным і свежым выглядзе.

**Настурцыя дэкаратыўная.** Яе лісце мае прысмак перцу. Служыць прыправай для бутэрбродаў і салатаў.

**Пятрушка** — духмяная агародная расліна. Ужываецца для ежы ў сезон. Увосень пятрушку можна пасадзіць у вазон і прыпраўляць зімою яе лісцем стравы.

**Размарын, мята, палын-эстрагон, шалфей, лопух.** Іх лісце, багатае на мінеральныя рэчывы, надае стравам у якасці прыправы спецыфічны смак і пах.

**Турнэпс** — ядуць у вараным выглядзе.

**Цыбуля-разанец** — мае прыемны пах лаванды, таму высяваецца для дэкаратыўнай аблямоўкі сцежак. Лісце ўжываюць у салатах.

**Шпінат** — ядуць свежым у салатах або адварваюць, як капусту.

**Шчаўе** — расце паўсюдна. Ядуць у сырым і вараным выглядзе, выкарыстоўваюць у салатах і для прыгатавання бутэрбродаў.

Джарвіс адзначае лекавае значэнне наступных раслін: **шандры,** высушанае лісце якой ідзе на чай ад прастуды; **каравяку** — чай з высушаных кветак п'юць ад кашлю, запалення горла і стрававальнай сістэмы, пры хворай печані, селязёнцы і неўрозах; **трыпутніку (падарожніку)** — лечыць, як і каравяк, унутраныя хваробы, асабліва дапамагае пры запаленні горла і стрававальнай сістэмы; **мяты балотнай,** якая здымае рэзкі боль. Доза — адна чарачка настою.

**Заключэнне.** Дарослы чалавек павінен падпарадкоўвацца інстынктам дзяцей і прывучаць сябе штодзённа ўжываць зеляніну.



Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
**Індэкс 63865.**

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак.
Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8505 паасобнікаў.
**Зак. 272.**

**Падпісана ў друк 17.05.1993 г. у 15 гадзін.**
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.